## Гаспадарка. Палітыка.

### Гайда, Юзік, у кібуц па вопыт

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Прадстаўнік ураду спыніўся яшчэ на некалькіх цікавых пытаньнях. Ненармальна тое, што вытворцы малака й мяса маюць менш прыбытку за перапрацоўшчыкаў сельгаспрадукцыі. Малочныя й мясныя заводы з гэтае прычыны, мабыць, будуць акцыяніраваны. Акцыянерамі стануць усе гаспадаркі-пастаўшчыкі, а таксама калектывы саміх прадпрыемстваў. Пры гэтым ён спаслаўся на вопыт Ізраільскіх кібуцаў (якія, «канешне, далёка не калгасы»), каторыя нядаўна наведаў сп. Бокач. 5—6 кібуцаў зазвычай валодаюць супольна перапрацоўчай фабрыкай...

Госьць зазначыў, што паводле чутак урад хоча разбурыць калгасы (!?) і паспрабаваў абвергнуць гэтае неабгрунтаванае сцьверджаньне. Сам за сябе гаворыць, напрыклад, той факт, што урадавыя прапановы наконт землеўласьніцтва, якія пададзены ў ВС, наступныя. Абсалютная большасьць зямлі (ня толькі калгасных, але й фермерскіх гаспадарак) застаецца дзяржаўнай. Прыватнымі могуць быць толькі соткі: прысядзібныя, пад лецішчы, пабудову дома альбо пад садаводчы ўчастак... Алібі, як той казаў, жалезнае.

Якія будуць высновы? Калгасы ў сёньняшніх умовах робяцца суздром нерэнтабельнымі. Дзіва што, бо створаны яны былі Сталіным і маглі больш-менш функцыянаваць толькі пад кіраўніцтвам райкамаў, абкамаў і г. д. Але разбураць, вядома ж, не будаваць. Пэўны час яны павінны захавацца. Наш урад робіць вялікія высілкі, каб утрымаць пад парай калгасны цягнік. Мэта высакародная — накарміць нас з вамі. Дзівіць іншае, а менавіта — яскравае імкненьне любой цаной закансэрваваць калгасна-саўгасны лад на Беларусі. А гэта тупік. Сытая Эўропа ня ведае калгасаў, а каб ведала, дык не была б сытай.

Прамоўцы выступалі па-расейску і зьвярталіся да ўдзельнікаў нарады са словам «товарищи»...

**АГЛЯДАЛЬНІК.**

### Няма згоды, а шкада...

**У друку паведамлялася, што ў Горадні працуе аргкамітэт па стварэньню партыі прадпрымальнікаў Беларусі. Называўся нават тэрмін (сакавік гэтага года), калі адбудзецца ўстаноўчая канфэрэнцыя. Па задуме арганізатараў партыя прадпрымальнікаў павінна абараняць правы прыватнага бізнэсу, дапамагчы маладым бізнэсмэнам распрацоўваць законапраэкты і ўносіць іх на разгляд ВС рэспублікі.**

Спадар Б. актывіст аргкамітэту, распавёў карэспандэнту «Пагоні»: Прыкладна год назад на менскай канфэрэнцыі прадпрымальнікаў была ўнесена прапанова аб стварэньні сваёй партыі. Прадстаўнікі гарадзенскай дэлегацыі ўзялі на сябе падрыхтоўку статута і іншых дакумэнтаў, неабходных для рэгістрацыі. Прыкладна за паўгады ўсе неабходныя дакумэнты былі зроблены і прадстаўлены на восеньскай сустрэчы прадпрымальнікаў, на якой прысутнічала некалькі соцень бізнэсмэнаў.

На жаль, большасьць з прысутных адмоўна аднеслася да нашай працы. І вельмі патрэбная справа спынілася.

**— Скажыце, чаму большасьць менавіта так паставілася да гэтай ідэі?**

— Ведаеце, паміж бізнэсмэнамі няма адпаведнай згоды. Многія лічаць, што кожны паасобку зможа выйсьці са складанага становішча. Таму ствараць арганізацыю, якая б ім дапамагала й абараняла, яны не жадаюць.

**— Што Вы зьбіраецеся рабіць надалей?**

— Пройдзе час, і я думаю, што мы паспрабуем тут, ў Горадні, стварыць свой рэгіянальны саюз прадпрымальнікаў. Думаю, гэта будзе зьдзейснена, бо на сёньня ў нашым горадзе ёсьць шмат прыхільнікаў гэтай ідэі.

**В. ЛАЎРЫНОВІЧ.**




### Скульптар Салятыцкі — славутым землякам

Гарадзенскі скульптар Анатоль Салятыцкі па асабістай ініцыятыве выканаў з бронзы мэмарыяльныя дошкі акадэміку Ю. Астроўскаму, дзеячу беларускай культуры Р. Шырме і габрэйскаму паэту-песеньніку Найдусу.

— Гэта знак маёй чалавечай павагі да выдатных землякоў,— зазначыў у размове з карэспандэнтам «Пагоні» спадар Салятыцкі.— Я без усялякай дапамогі з боку мясцовых уладаў на свае сродкі адліў мэмарыяльныя дошкі ў Менску і прывёз іх у Горадню. Зараз чакаю, калі дамы, у якіх жылі нашыя славутыя землякі, будуць адрамантаваны. Тады з дапамогай грамадзтва абавязкова дамагуся дазволу на тое, каб усталяваць гэтыя дошкі.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Як жа называцца Гарадзенскім вуліцам?

Ідзе час. Паступова адыходзяць у нябыт пачварныя прывіды камуністычнай мінуўшчыны. Адраджаецца закатаваная нацыянальная сьвядомасьць, абуджаецца згвалтаваная гістарычная памяць. Пасяленьням, вуліцам і плошчам пачынаюць вяртацца іх спрадвечныя назвы, зьнікае ідэалагізаваная бязглуздзіца накшталт вуліц «Сацыялістычнай» ці «Савецкай».

Ня ўсё, аднак, у гэтым працэсе выглядае ружова й аптымістычна. Многае выдаецца няпэўным і двухсэнсоўным. Некаторыя прапановы аб зьмене назваў гарадзенскіх вуліц (гл. «Пагоня» № 2 ад 29.01.93 г.) выклікаюць шчырае зьдзіўленьне і дазваляюць меркаваць або аб няпоўнай дзеяздольнасьці сябраў тапанімічнай камісіі або неразуменьні імі дзяржаўных і нацыянальных інтарэсаў. Узьнікае ўражаньне, што без «ценных указаний» яны і надалей ня здольны зрабіць і кроку. І калі зусім нядаўна трэба было выцягвацца ў струну перад любым камуністычным «культуртрэгерам» з усходу, дык зараз, здаецца, гэты вакум пасьпяхова запаўняецца сьвятарамі рускай праваслаўнай царквы. Цяпер мы ужо і папам у рот глядзім, бо яны, пэўна, як і іх папярэднікі, лепей за нас ведаюць, як нам жыць. Бо інакш чым растлумачыць зьяўленьне неабгрунтаваных клерыкальных назваў у сьпісе прапаноў па зьмене назваў вуліц Горадні?

Напрыклад, вуліца Пілсудзкага-Гітлера-Леніна будзе называцца, калі гарсавет прыме гэтую прапанову, Пакроўскай, пэўна атрымаўшы ў спадчыну назву Пакроўскага сабора, які да гэтай вуліцы не мае ніякага дачыненьня, бо аддзелены ад яе сваім дваром з прыбіральнямі, шапікам «Садавіна-гародніна», стаянкай аўтамашын, а фасадам выходзіць на вуліцу Ажэшкі. У той жа час на гэтай вуліцы знаходзяцца: пэдагагічнае вучылішча, корпус факультэта беларускай філалогіі і культуры, а сама яна ўпіраецца ў галоўны корпус унівэрсітэта.

Дык чаму ж не назваць яе абсалютна нейтральна — «Унівэрсітэцкая»?

Або возьмем да прыкладу вуліцу Лермантава, якую прапанавана назваць Каложскай, якая раней, дарэчы, называлася Базыльянскай ад назвы вуніяцкага Базыльянскага кляштара. Гэтую прапанову можна патлумачыць толькі як спробу затлуміць гістарычную памяць, але цяпер ужо з іншага боку, хоць і старым спрадвечным чынам. Адабраўшы кляштар, г. зн. тое, што не будавала, што ёй не належала, праваслаўная царква імкнецца і ўсялякі ўспамін аб сваіх грахах сьцерці з памяці народнай. А мы што, зноў рады старацца?

У гэтым накірунку трэба, пэўна, разглядаць і адмову камісіі ва ўвекавечаньні памяці вялікага гуманіста й вучонага, які жыў і тварыў у нашым горадзе, Л. Л. Замэнгофа — стваральніка ўнівэрсальнай сусьветнай мовы эспэранта. Увесь сьвет ведае яго, любы горад у цывілізаванай краіне ганарыўся б, каб мог праславіцца праз гэтае імя. Любы, але не Горадня, бо на сваю бяду Замэнгоф быў іудзеем, а не праваслаўным, ці на худы канец католікам.

Рэспубліка Беларусь — сьвецкая поліканфэсійная дзяржава. Таму стварэньне новых тапаграфічных рэалій, зьвязаных з любым веравызнаньнем, напэўна, не адпавядае рацыі беларускай дзяржаўнасьці, бо не яднае, а разьядноўвае грамадзтва. У гэтай сувязі трэба было б узважыць і мэтазгоднасьць вяртаньня гістарычных назваў, калі яны маюць канфэсійны характар і колькасьць іх адлюстроўвае стан переваг ў адпаведныя гістарычныя пэрыяды той ці іншай рэлігіі, які, як вядома, дасягаўся шляхам дзяржаўнага прыгнёту іншых хрысьціянскіх канфэсій, а не свабоднага выбару грамадзян.

У гэтай сувязі хацеў бы заўважыць, што выдзяленьне для мусульманскай абшчыны пляцу пад узьвядзеньне мячэці ў самім горадзе, пажадана бліжэй да цэнтру, а не ў прыгараднай вёсачцы, было б знакам роўнай трактоўкі ўсіх канфэсій з боку дзяржавы і да таго ж упрыгожыла б сілуэт горада. Больш таго, як стала вядома, абмяркоўвалася пытаньне аб выдзяленьні на Старым Рынку — плошчы Савецкай — места пад будаўніцтва праваслаўнага сабора, што перакрэсьліць магчымыя спробы ўзнаўленьня гістарычнай забудовы цэнтра.

Мне здаецца, што адзіна магчымая лінія паводзін органаў улады Рэспублікі Беларусь, у тым ліку й мясцовых,— гэта абсалютная нейтральнасьць у адносінах да ўсіх канфэсій, пасьлядоўнае пазьбяганьне любых крокаў, што маглі б узбудзіць у грамадзян пачуцьці нецярпімасьці да верующых не сваёй канфэсіі.

Будучае Беларусі — у дэмакратычным нацыянальным адраджэньні, а не ў пеставаньні дзяржаўнай рэлігіі.

**Міхал ПАТРЭБА, праваслаўнага веравызнаньня.**

*Грамадзтва*

## Вэтэраны сустрэліся з уладамі Горадні

Зала гарнізоннага Дому афіцэраў, дзе адбылася сустрэча, была запоўнена людзьмі пэнсійнага ўзросту. У прэзідыуме сядзелі тыя, ад каго залежыць сёньня вельмі шмат. Тут былі прадстаўнікі гандлю, сувязі, сацыяльнага забесьпячэньня. Таму пытаньняў у прысутных было багата. Вэтэранаў непакоіла, чаму ў нашай дзяржаве так хутка расьце кошт тавараў, паслуг. Турбавала тое, чаму большасьць з іх страціла правы на дадатковае харчаваньне, абслугоўваньне ў крамах. Вярэдзіў старым душы развал савецкай краіны, маленькая пэнсія.

Прадстаўнікі улады як маглі, так і тлумачылі становішча. Часам паміж прысутнымі і адказчыкам на пытаньні усталёўвалася нават паразуменьне. Але й былі такія выпадкі, калі зала адмаўлялася разумець адказчыкаў. Яскравы прыклад — зьяўленьне на трыбуне прадстаўніка гандлю. Як не намагаўся гэты спадар растлумачыць пэнсіянерам, што дарагоўля — гэта зьява не выпадковая і што мінулыя пяцігодкі стварылі спрыяльныя ўмовы для таго, што адбываецца зараз ў краіне. Вэтэраны аргумэнты слухаць не пажадалі і патрабавалі, каб адказчык пакінуў трыбуну.

Назіраць за паводзінамі вэтэранаў было цікава, імі любы адказ успрымаўся, як кажуць, «ў штыкі». Зразумець сівагаловых людзей можна. Яны сумуюць па мінуўшчыне, нейкаму, хоць і прымітыўнаму, дабрабыту. Спадзяюцца, што вяртаньне былога зноўку дасьць ім страчаныя прывілеі. Глядзець ў будучыню яны не жадаюць. Дый гэта ім не патрэбна, бо лепей патрабаваць ад нашчадкаў усё адразу, чым прааналізаваць тое, па чым у душы настальгія. А асэнсаваць мінулае вой як трэба.

**В. КАСЬЦЮКОВІЧ.**

## За піцу і салямі плаціце рублямі

Раней, каб пакаштаваць экзатычны заморскі прадукт харчаваньня, даводзілася ехаць да Менску, Масквы альбо Вільні. Таму, калі даведаўся, што ў Горадні нямецкая камэрцыйная фірма «Раабэ» ў краме «Крышталь» ладзіць невялікую выставу сьвежазамарожаных прадуктаў, засьпяшаў туды.

Тое, што ўбачыў, прыемна ўразіла. За рублі пакупніку прапаноўвалі такія дэлікатэсы як рыбныя палачкі са шчупака, піцу, салямі і шмат што яшчэ, аб чым я раней чытаў толькі ў кнігах. Усе прадукты апэтытна расфасаваны, і кошт на іх ня вельмі высокі. Адзін пакунак палачак са шчупака каштуе каля тысячы рублёў, піца вагой 300 грамаў — 1200 рублёў.

Мэнэджэр фірмы «Раабэ» спадар Мікола Вярэніч зазначыў, што гэта толькі першы крок, а ў пэрспэктыве фірма будзе пашыраць асартымэнт. Ужо зараз заключаны пагадненьні на пастаўку ў Горадню харчовых прадуктаў з Бэльгіі, Даніі, Нідэрландаў. На чарзе краіны Афрыкі і Паўднёвай Амэрыкі.

**Г. ГЕРМАНОВІЧ.**

## Апрабацыя доктарскай

калі ў рэдакцыі газэты «Пагоня» стала вядома, што ў біялагічным корпусе Гарадзенскага дзяржаўнага медінстытута адбудзецца апрабацыя доктарскай дысэртацыі навукоўца канд. мед. навук Алеся Астроўскага, карэспандэнты Г. Васілеўскі і С. Кунеж вырашылі не пакідаць па-за сваёй увагай гэтую падзею, тым больш, што тэма дысэртацыі мае ня толькі акадэмічны, але й практычны характар. Тэма дысэртацыі — «Аднаўленчыя асаблівасьці вакумнага аддзяленьня эпідэрмісу і перасадка атрыманага трансплантанта на рэцэпторнае ложа». Аўтар падрабязна тлумачыў прысутным перавагі свайго метаду над іншымі, адказваў на шматлікія пытаньні.

За навуковымі фармулёўкамі стаяць канкрэтныя жыцьцёвыя сітуацыі. Калі чалавек атрымоўвае цяжкае апаленьне скуры, на лакалізацыю траўміраванага ўчастка трацiцца шмат часу, да таго ж працэс лекаваньня цягнецца доўга й пакутліва. І вось гарадзенскі навуковец прапаноўвае якасна новы падыход.

Пасьля апрабацыі Алесь Аляксандравіч запрасіў нас у сваю лабараторыю, дзе праводзілася большасьць навуковых дасьледаваньняў. Дарэчы, тыя ўмовы, у якіх стваралася дысэртацыя, больш нагадваюць келію сярэднявечнага алхіміка, чым лабараторыю навукоўца канца 20-га стагоддзя. Усе прыборы і прыстасаваньні зроблены самім Астроўскім і яго калегамі.

Тут, на месцы нараджэньня навуковай працы, адбылася наша гаворка.

**— Спадар Алесь, чаму выбрана менавіта тэма апёкаў! Па спэцыялізацыі Вы — гістолаг-марфолаг, а Вашу працу па тэмату можна хутчэй аднесьці да хірургічных дасьледваньняў.**

— Праблема апёкаў скуры зацікавіла мяне даўно, асабліва турбаваў дзіцячы траўматызм, бо ў час абвальнай безгаспадарчасьці ў самых людных месцах выкідваецца багата розных хімічных адыходаў. Ахвярамі пры кантакце з імі становяцца часьцей за ўсё дзеці. Хімічныя апёкі ў дзяцей працякаюць значна цяжэй, чым у дарослых. У большасьці выпадкаў на целе дзяцей застаюцца язвы, якія доўга не гаяцца. Да таго ж, каб залекаваць пашкоджаную частку скуры, патрэбны донарскі трансплантант з цела самога хворага. Дагэтуль хірургі бралі метадам дэрматомы неабходную колькасьць трансплантантаў, пакідаючы на донарскім месцы глыбокія раны, якія гаіліся прыкладна месяц.

Мой метад вакумнага аддзяленьня эпідэрмісу (самай верхняй абалонкі скуры) значна прасьцейшы. Ён дае магчымасьць узяць трансплантант хутка. Да таго ж, не пакідае на донарскім участку скуры рубцоў і забясьпечвае аднаўляльную функцыю скуры за 7—8 дзён, што дае магчымасьць хірургу пры цяжкіх апёках значна хутчэй атрымоўваць лекавы матэрыял.

**— Адной з пераваг Вашага метаду, як зазначана ў дысэртацыі, зьяўляецца тэхналагічная прастата.**

— Так, раней, каб атрымаць трансплантант, медыкам неабходна было абязболіць выбранае месца. На гэта ішло шмат прэпаратаў анастэзіі. Дзецям давалі наркоз. Мой метад не патрабуе сродкаў абязбольваньня, таму што ён безбалючы. Можна атрымаць неабходную колькасьць трансплантанту не ў апэрацыйнай, а нават у звычайным шпітальным пакоі. Да таго ж, каб вылячыць хворага ўжо існуючымі метадамі, патрабуюцца значныя матэрыяльныя затраты. Мой метад, наадварот, вельмі танны. Для вытворчасьці эпідэрмісу шляхам вакумнага аддзяленьня дастаткова зусім невялічкай лабараторыі, якая не патрабуе каштоўнага абсталяваньня. Яе можна без значных затрат перавозіць з аднаго шпіталя ў другі. Пры жаданьні любая ўстанова можа абсталяваць такі пакойчык.

Так ужо сталася, што посьпехі беларускіх медыкаў незаўважнымі кандыдацкімі і доктарскімі дысертацыямі накіроўваліся ў Маскву, дзе ім надаваліся званьні «дасягненьні савецкай навукі». У лепшым выпадку імя вынаходніка ўзгадвалася ў «Медицинской газете». Вялікія маскоўскія клінікі выкарыстоўвалі гэтыя тэхналогіі і зараблялі сабе імідж самых сучасных і самых надзейных. Атрымлівалася, што беларуская навука была прыёмнай дачкой навукі расейскай. Але, як кажуць, быў час, была эпоха. Нарэшце зьявілася магчымасьць пачуваць сябе роўнымі сярод роўных, не шаптаць, а гаварыць, не прасіць, а даваць самім.

● *Статыстыка*

## Засьпетыя на гарачым

У 1992 годзе ў нашай вобласьці падлеткамі зьдзейснена 717 злачынстваў. Гэта на паўтары сотні болей, чым пазалетась. Самы распаўсюджаны від злачыннасьці — крадзёж: 397 выпадкаў. Іх колькасьць удзень і ўвечары амаль аднолькавая. Меней распаўсюджаны «інтэлектуальны» спосаб крадзяжу. Да прыкладу, толькі ў 15 выпадках злодзеі спрабавалі падбіраць ключ, каб нічога не ламаць, 12 разоў спрабавалі ўвайсьці ў давер сваёй будучай ахвяры, што, вядома, значна цяжэй, чым проста выламаць дзьверы або выбіць вакно.

Часьцей крадуць у кватэрах і аўтамабілях. Нярэдка гэтаму спрые нядбайнасьць саміх гаспадароў. Калі раней найбольш кралі радыёапаратуру, матацыклы і іншую тэхніку, дык у мінулым годзе — адзеньне. Як правіла, гэта робяць падлеткі, у якіх ня ўсё ладзіцца з бацькамі. Быў нават выпадак, калі дзяўчына спрабавала скрасьці шлюбную сукенку, на якую ў яе не хапала грошай. А яшчэ адна непаўналетняя крала дзеля таго, каб апрануць сваіх маленькіх брацікаў...

У 30 выпадках кралі прадукты харчаваньня, у 35 — грошы, у 15 — сьпіртныя напоі, у дзевяці — залатыя рэчы.

Летась засьпелі на гарачым 99 школьнікаў, 79 навучэнцаў ПТВ, 75 падлеткаў, якія нідзе не працавалі. Кожны год мясцовыя ўлады прымаюць рашэньні аб працаўладкаваньні падлеткаў, аднак у жыцьці гэтыя рашэньні застаюцца на паперы, бо адсутнічае галоўнае — дзяржаўная палітыка для моладзі.



Падлеткамі 14—15 гадоў летась было зьдзейснена 4 згвалтаваньні, 22 рабаўніцтвы і 4 разбойныя напады.

Ледзьве ня кожны непаўналетні злачынца мае нізкі ўзровень адукацыі ды культуры. Адсутнічаюць элементарныя веды, якія павінна даваць школа. А калі аналізаваць глыбей, дык самае страшнае, бадай, у тым, што ніхто з іх не атрымлівае змалку ведаў аб сваіх дзядах, аб мінулым свайго народа, горада, вёскі. Без чаго ніводзін чалавек ня можа ўзбагачаць сваю асобу і асэнсоўваць сваё месца ў жыцьці. Без гэтага ня можа быць у чалавека гуманных ідэалаў, павагі да іншых людзей, прыроды і г. д. Як паказала адно з апытаньняў падлеткаў, якое праводзілася ў Горадні: толькі 10% з іх бываюць у тэатры, тым жа часам 80% рэгулярна наведваюць відэасалоны і дыскатэкі. Варта задумацца над тым, што з 300 апытаных толькі 100 давяраюць сваім бацькам. Значна меней родным і сябрам, у трэці падлеткаў даверу ня мае ніхто. Дарэчы самы нізкі працэнт даверу настаўнікам і, як ня дзіўна, класным кіраўнікам.

Лічбы кажуць самі за сябе. Смутна, што мы нічога ня ведаем нават аб сваіх дзецях. Толькі чаму часта свой становіцца такім чужым, адбіваецца ад рук? Чаму гэта ўсё часьцей яны стараюцца ўцячы з хаты на вуліцу, а здараецца што й назаўсёды? Не разумеем мы дагэтуль таго, што з бязпраўнага дзіцяці пачынаецца бязпраўнае грамадзтва. І калі ўжо, нарэшце, узьнікае ў нас думка стварыць прававое грамадзтва, дык патрэбна ня толькі турбавацца аб прыватызацыі ўласнасьці, але й падумаць урэшце аб дзецях...

**А. РЫБАК.**

**Начальнік аддзяленьня па папярэджваньню правапарушэньняў сярод непаўналетніх і моладзі УУС, падпалкоўнік міліцыі.**

## Віленшчына

*Эміграцкі друк*

# «ГОЛАС ЧАСУ»

Выйшаў з друку першы нумар за 1993 год царкоўна-грамадзкага часопіса «Голас часу». Часопіс выдаецца беларускім супольніцтвам у Лёндане і служыць адной з асноўных крыніц ведаў аб Беларусі для беларускай эміграцыі. На сваіх старонках «Голас часу» знаёміць чытача з гісторыяй на нашай зямлі, аналізуе падзеі сёньняшняга дня на Бацькаўшчыне, дае магчымасьць выказацца на сваіх старонках усім неабыякавым да лёсу Радзімы. Пэрыядычнасьць выхаду часопіса — адзін нумар у два месяцы.

Распачынаецца першы нумар артыкулам сп. Лёнданскага «Хто выбірае беларускі дзяржаўны гімн». Аўтар робіць невялікі экскурс у гіторыю станаўленьня беларускага гімна, пачынаючы з вядомага верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?», і лагічна пераходзіць да разгляду сёньняшніх варыянтаў Дзяржаўнага гімна. Узважыўшы ўсе станоўчыя і адмоўныя моманты ў прапанаваных тэкстах, сп. Лёнданскі больш прыхільна ставіцца да гімна У. Тараўскага на словы М. Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які быў ваяцкім гімнам Слуцкага збройнага чыну і зьмест якога, на думку аўтара, найбольш адпавядае сучаснасьці. Спадар Лёнданскі ўступае ў завочную палеміку з аўтарам газэты «Мы и время» і іх прыхільнікамі, якія настальгічна ўздыхаюць па мінулых камуністычных часах і іх сімволіцы, ачарняючы з гэтае нагоды ўсё нацыянальнае, гістарычна-беларускае.

Вялікую цікавасьць выклікае артыкул Юры Весялкоўскага «За плотам Катынскага лесу», прысьвечаны 50-м угодкам адкрыцьця смутна вядомых магіл у Катыні. Зыходзячы з афіцыйных дакумэнтаў, вынікаў раскопак, паказаньняў сьведкаў, спадар Весялкоўскі раскрывае жахлівыя малюнкі сталінскіх расстрэлаў на гэтай зямлі як польскіх афіцэраў, так і простых беларускіх сялян. Ужо з 1935 года пачала сваю чорную дзейнасьць Катынская фабрыка сьмерці. У артыкуле ўздымаецца заслона і над прычынамі наўмыснага замоўчваньня падчас Нюрнбэргскага працэсу Катынскіх падзеяў.

Спрэчны і нечаканы матэрыял П. Манькоўскага «Палякі атруцілі Міцкевіча», які ўпершыню быў надрукаваны ў часопісе «Час». Аўтар, абапіраючыся на матэрыялы розных выданьняў, прысьвечаных Адаму Міцкевічу, праводзіць дасьледаваньне прычын, якія нейкім чынам зьвязаныя з нечакана хуткай сьмерцю вялікага паэта. Перад намі паўстае сапраўды трагічны лёс чалавека, імя якога і пасьля сьмерці выкарыстоўваюць пэўныя сілы ў сваіх мэтах.

Як і заўсёды, багата ў нумары інфармацыі аб тых ці іншых падзеях на Беларусі і за яе межамі, зьмешчаны лісты чытачоў на розную тэму.

**Віктар ВАРАНЕЦ.**



*Водгукі*

# Лёгіка змагароў за дзяржаўнасьць пальшчызны і савеччыны

**Колькі і на якой падставе ў дэмакратычным грамадстве мусіць быць дзяржаўных моваў! Гэтае пытаньне хвалюе сёньня ня толькі прадстаўнікоў савецкай нацыянальнасьці ў Вярхоўным Савеце Беларусі. Яно актуальнае паўсюль, дзе ствараюцца ці адраджаюцца незалежныя нацыянальныя дзяржавы. Напрыклад, у Летуве. Зусім нядаўна абмен думкамі на гэтую тэму адбыўся на старонках газэты «Куріер Віленскі». У палеміку з віленскім юрыстам, суддзёй Найвышэйшага Суду Летувіскай Рэспублікі палякам Ю. Тамашэвічам, які адстойвае права на дзяржаўнасьць для польскай мовы на Віленшчыне, уступіў ліцьвін, лекар і вядомы на Беларусі культурік Валдас Банайціс. Другой дзяржаўнай на Віленшчыне сёньня прэтэндуюць быць як польская, так і яшчэ адна зусім нядаўна адзіная тут дзяржаўная мова — расейская. Лёгіка змагароў за дзяржаўнасьць пальшчызны ды савеччыны падобная й шырока вядомая. На дапамогу сабе яны заклікаюць кодэксы, законы, прыклады з розных краінаў сьвету. Але цікавей выглядае лёгіка іх апанентаў — абаронцаў дзяржаўнасьці для моваў, якія толькі здабылі сабе гэтае сваё адвечнае на ўласнай зямлі права. З гэтай лёгікай можна спрачацца, бо яна нараджаецца цяпер, на нашых вачох, і таму яна жывая.**

Суддзя Юзаф Тамашэвіч ужо ў назве свайго артыкула ў газэце «Куріер Віленскі» за 15—16 студзеня пытаецца: «Правы рэальныя ці ілюзорныя?» і пачынае пераконваць: калі ў дэмакратычным грамадстве 20 працэнтаў грамадзянаў належаць да іншых нацыянальнасьцяў, дык мае быць і некалькі дзяржаўных моваў. На ягоную думку, калі ў дзяржаве ёсьць як мінімум 6—7% асобаў іншых нацыянальнасьцяў, а ў грамадзкім жыцьці ўжываецца толькі адна мова, то такая дзяржава недэмакратычная. Маўляў, чаму Летува, якая называе сябе дэмакратычнай, не падбае пра тое, каб у раёнах, што шчыльна заселеныя нацыянальнай меншасьцю, побач з дзяржаўнаю мовай ужывалася мова мясцовая, каб усе інфармацыйныя надпісы побач з дзяржаўнай былі таксама на мове мясцовай. Чаму сродкі выдзяляюцца Дзяржаўнай Камісіі Летувіскай Мовы толькі на клопат пра дзяржаўную мову, але няма сродкаў на стварэньне камісіі, якая б падбала пра мову мясцовую?

Аўтар спасылаецца на міжнародныя стандарты, прыклады Ірляндыі й Люксембургу, цытуе сучасную й былую канстытуцыі. Дэкларацыю Правоў Чалавека і Грамадзяніна за 1784 год, артыкулы Закону аб нацыянальных меншасьцях і Кодэксу адміністрацыйных правапарушэньняў. Ён дамагаецца ўвядзеньня адміністрацыйнай адказнасьці за перашкоды ў рэалізацыі права на ўжываньне мясцовай мовы (нацыянальнай меншасьці).

На жаль, аўтар (перадусім як абаронца нацыянальнай меншасьці, а толькі потым грамадзянін) тэкст закону, як для юрыста, чытае ня надта ўважліва. У законе некалькі разоў падкрэсьліваецца — «побач з дзяржаўнай мовай» — што значыць: перадусім мусіць ужывацццца дзяржаўная мова, а толькі потым якаясь іншая можа быць побач. Уласна для таго й была патрэбная інспэкцыя Дзяржаўнае Мовы, каб дзяржаўная мова заняла належнае ёй мейсца, каб былі пераадоленыя праявы моўнага імпэрыялізму. Як на сёньня, у Віленскім раёне дзяржаўная мова яшчэ не заняла такога месца, каб побач з ёю магло зьмясьціцца яшчэ нешта. Тут усё яшчэ пануе мова чужая, не летувіская, і ня той нацыянальнай меншасьці, якую прадстаўляе аўтар, а толькі расейская, тады як расейцаў у Віленскім і Салечніцкім раёнах у дзевяць разоў менш за палякаў. Справа ў тым, што расейская мова пачуваецца тут нібы дома, у шырокім краі яна сталася сваёй, другой роднай, мясцовай і савецкай, а ўсе нацыянальныя меншасьці, званыя «нацменамі», ўжо даўно мусілі зьнікнуць, ператварыцца ў «русскоязычное население».

Размова пра роўнасьць нацыяў ці моваў аблудная, калі гэтыя нацыі й мовы прынамсі не прапарцыйныя, калі вялікія дамінуюць над малымі, праводзяць сваю экспансію коштам меншых (асабліва тых, у дзесяць разоў меншых). Вялікім не пагражае зьнікненьне, бо яны маюць свае магутныя мэтраполіі. І калі тыя мэтраполіі або іх рупары «на месцы» жадаюць, каб іхнюю мову абвясьцілі дзяржаўнай у іншых дзяржавах — дык што гэта? Ці ж ня моўны імпэрыялізм? Вялікая мова дасканала функцыянуе ў якасьці дзяржаўнай ва ўласнай дзяржаве. Дзяржаўная мова — гэта такая, якая ўжываецца ў грамадзкім жыцьці дзяржавы. Летувіская мова — толькі становіцца дзяржаўнай і перашкаджаць ёй у гэтым працэсе — нелаяльна. І ня варта прыкрывацца інтарэсамі шэраговага грамадзяніна. Вядома, гэта не яго віна, што так кепска вучаць па-летувіску. Не ягоная, але чыноўнікаў — як былых, так і сучасных і будучых — пераконвае Ю. Тамашэвіч. У тым ліку і ўласным прыкладам, уласным становішчам.

ШТО да судовае мовы, дык хто ж не дазваляе ў канкрэтным выпадку пры патрэбе паклапаціцца пра перакладчыка для абвінавачанага? Але прыняцьце закону пра судовую працэдуру «для іншых нацыянальнасьцяў, што шчыльна засяляюць дадзеную тэрыторыю» — азначала б, што ў Вільні судовая працэдура, як правіла, праводзілася б на іншай мове. Грамадзян Летувы ня судзяць па-расейску, ня будуць судзіць таксама ані па-ангельску, ані па-польску. Бо калі летувіская мова ня будзе функцыянаваць у судзе, ня будзе прысутнічаць у судовым працэсе, то ня будзе яна дзяржаўнаю мовай. Калі пры патрэбе на судзе будзе раздавацца іншая мова з перакладам — наколькі будзе патрэба, тая другая мова ад гэтага ня стане дзяржаўнай. Што да перакладчыкаў — то відавочна, іх не хапае, але найлепш, калі самі судзьдзі тлумачаць свае словы з мовы судовага працэсу на мову абвінавачаных альбо з мовы абвінавачаных на мову судовага працэсу. Я бачыў, што так робіцца, і пагадзіўся з гэтым. Службоўцы, як суддзі, так і лекары, што абслугоўваюць гэты рознамоўны рэгіён, павінны ўмець паразумецца з мясцовым насельніцтвам на мясцовай мове, што зусім не значыць — перайсьці або вярнуцца да ўжываньня іншых моваў у справаводзтве.

Усталёўваючы дзяржаўнасьць летувіскае мовы, трэба таксама шанаваць іншыя мясцовыя мовы. Не якуюсь адну, але ўсе, асабліва тыя, якія былі найбольш пакрыўджаныя. І ня трэба культываваць моўную монакультуру ці культурны апартэід у гэтым шматмоўным рэгіёне. Ужо ў школе тут трэба было б знаёміцца з мовай і культурай суседзяў. Побач з замежнаю мовай вучням гэтага рэгіёну мусіць выкладацца мясцовая мова: у летувіскіх школах — польская ці беларуская, у польскіх школах — беларуская, у расейскіх — беларуская ці польская. Магчыма, гэта паўплывае на пераадоленьне размежаваньня, а выхаванцам гэтых школаў аблегчыць выкананьне сваіх абавязкаў, калі яны стануць службоўцамі. Яшчэ тры гады таму я прапанаваў гэты пункт, выстаўляючы сваю кандыдатуру ў няўдалым суперніцтве з Уладзіславам Шведам на выбарах у Новай Вялейцы — геаграфічным цэнтры паўднёва-усходняй Летувы.

Шаноўны аўтар увесь час паклікаецца на практыку іншых дзяржаваў, забываючы, што ўсе яны існуюць ужо здаўна, тады як наша толькі паўстае, пераводзіць дых, ськівдае кайданы мінуўшчыны. І ўжо напачатку трэба было б пачаць той артыкул іншым пытаньнем — сувэрэнітэт рэальны ці ілюзорны?

Падобным чынам пытаньні дзьвюх дзяржаўных моваў ставяцца цяпер на Беларусі — адной мовы нацыянальнай і другой роднай, якой для большасьці жыхароў гэтага рэгіёну сталася мова расейская. У нашай краіне (Летуве) і ў нашым рэгіёне (паўднёва-ўсходнім) нацыянальныя меншасьці не застаюцца на ўскрайку грамадзкага жыцьця і ў іх грамадзкім жыцьці штораз шырэй будуць ужывацца мовы нацыянальных меншасьцяў. Няхай толькі не заціраюць іншых, ня прагнуць гегемоніі й не прэтэндуюць на ролю моваў рэгіянальных ці дзяржаўных — такую ролю яны граюць у сваіх дзяржавах — хай саступяць дзяржаўнай мове мейсца ў яе дзяржаве. А тады, побач, знойдзецца мейсца і для іх. Такія прыярытэты.

**Валдас БАНАЙЦІС.**

**Вільня.**

# Абвесткі. Здарэньні. Цэны.

## Гарадзенскі рынак: цэны растуць

Дастаткова толькі тыдзень-другі не пабыць на торжышчы, як адразу кідаюцца ў вочы зьмены, што адбыліся за гэты час. У Горадні цэны вырасьлі практычна на ўсе тавары. Адзінае, што застаецца нязьменным — натоўп людзей, у які калі трапіў, выйсьце шукаць вельмі цяжка.

Цэны на некаторыя тавары на Гарадзенскі торжышчы ў мінулыя выхадныя:

Сьвініна, 1 кг — ад 700 да 1800 руб.
Бараніна, 1 кг.— ад450 да 550 руб.
Вэнджаніна , 1 кг — ад 900 да 1600 руб.
Шынка сабская, 1 кг — ад 800 да 1100 руб.
Яйкі, 1 дзесятак — 250—300 руб.
Курыца, 1 шт.— 2300—2500 руб.
Вантрабянка собская, 1 кг — 250—300 руб.
Масла сьметанковае, 250 г — 200 руб.
Бульба, 1 кг — 35 руб.
Тлушч, 1 кг — 500 руб.
Мандарыны, 1 кг — ад 450 да 600 руб.
Капуста, 1 кг — 150 руб.
Грыбы сушаныя, 1 кг — ад 2000 да 2500 руб.
Мёд, 1 кг — ад 1200 да 1400 руб.
Сала вэнджанае, 1 кг — 800 руб.
Дрожджы, 1 кг — 250 руб.
Цыбуля, 1 кг — 45—50 руб.
Цюльпаны, 1 шт.— ад 150 да 200 руб.
Ружы, 1 шт.— 700—800 руб.
Гарэлка, 1 бут.— 550—600 руб.
Даляр ЗША — 725—730 руб.

**М. ЖЫЛЕЎСКАЯ.**



## КРЫМІНАЛЬНАЯ

Несуцяшальныя вынікі прынесьлі міліцэйскія тэлетайпы ў перадсьвяточныя й сьвяточныя дні. Усяго па вобласьці зарэгістравана 112 злачынстваў і здарэньняў. У іх ліку адно забойства, 8 цяжкіх цялесных пашкоджанняў, з іх адно скончылася сьмерцю. Не абыйшлося і без разбояў, згвалтавання, рабаўніцтваў, крадзяжоў.

Пры аналізе гэтых падзей кідаецца ў вочы адна акалічнасьць: як правіла, ахвяры і злачынцы незадоўга да гэтага сядзелі за адным сталом і разам пілі гарэлку. Здавалася б, гэта ўжо здаралася не аднойчы..

Сярод падзей тыдня можна адзначыць таксама выяўленьне ў Горадні двух фактаў фальшывых грошай. Жанчына, якая нідзе не працуе, мела намер збыць купюру вартасьцю 100 даляраў ЗША ў камэрцыйнай краме. Другі выпадак зьвязаны таксама з «соткай», але толькі дойчмарак — менавіта на такую суму панесла страты адміністрацыя гатэля «Турыст», якой трое малайцоў падсунулі фальшыўку.

І яшчэ адна падзея, зьвязаная з меднай ліхаманкай... Так стала вядома, што нядаўна разам з памагатымі за крадзёж буйной партыі медзі — каля 14 тон, коштам звыш трох мільёнаў рублёў — арыштаваны дырэктар Гарадзенскага кансэрвавага завода Г. Харытановіч (в. Калбасіно). Сярод чатырох арыштаваных і зяць дырэктара — урач вабласной бальніцы. Як высьветлілася падчас сьведзтва, гэтую медзь МП «Гродсоўп» здало на склад кансэрвавага завода на захаваньне...

**Г. СЫСОЙ.**

## ХРОНІКА

## Бясплатныя абвесткі

Мяняю аднапакаёвую кватэру на двухпакаёвую з даплатай па дамоўленасці. Тэл. 44-78-42.

Прадаюцца кітайскія пухавікі па цэнах, ніжэйшых, чым на рынку. Зьвяртацца па тэл. 44-78-42.

Якасна перамацую і абшыю з тканіны заказчыка падматрасьнікі для мяккіх крэслаў, канапаў, спальных гарнітураў. Зьвяртацца па тэл. 2-19-57.

Прадам па танным кошце электрадрэль з камплектамі разнастайных насадак. Зьвяртацца па тэл. 55-743.

Тэрмінова прадаецца новая запакаваная мэблі «Пралалінка». Зьвяртацца па адрасу: г. Горадня, вул. Лізы Чайкінай, д. 26, кв. 19.

Танна прадам лінолеум, 76,2 м. кв. Тэлефанаваць па тэл. 44-65-23 пасьля 18.00 гадзін.

Прадаецца новая пральная машына «Фея-2» за 15 тысяч рублёў, а таксама унітаз белы, без зліўнога бачка. Зьвяртацца па тэл. 47-03-37.

### ВІЛЬНЯ

У аўторак Нацыянальны банк Летувы зацьвердзіў новы курс летувіскага талёна адносна замежнай валюты:

даляр ЗША — 467,28 тал.
дойчмарка — 282 тал.
англ. фунт — 677,56 тал.
эст. крона — 35,97 тал.
латв. рубліс — 3,08 тал.
рас. рубль — 0,72 тал.
укр. купон — 0,38 тал.
бел. рубель — 0,68 тал.

Увогуле беларускія рублі не карыстаюцца попытам, бо каштуюць амаль як расейскія, а дзейнічаюць толькі ў межах Рэспублікі Беларусь.

**Перадаў па тэлефоне С. СУБАЧ.**

# ГАРАСКОП І ЗДАРОЎЕ.

**(Працяг. Пачатак у № 4 (18)**

**ЛЕЎ.**

Гэта вітальны (жыцьцяздольны) знак, кіруе сэрцам. Важна весьці памяркоўнае жыцьцё, бо дастаткова хоць аднойчы адпынуцца ў дысгарманальным стане, як могуць адразу ўзьнікнуць хваробы. Нельга даводзіць сваё жыцьцё да разладу й бязладдзя, неабходна культываваць памяркоўныя звычкі й гарманічнае акружэньне. Неабходна прытрымлівацца дыеты, пазьбягаць ужываньня вострай стравы, хаця абавязкова патрэбна страва, якая ўзмацняе кровазварот. Пазьбягайце хваляваньняў і сьпешкі, усё рабіце спакойна, паволі і ўпарадкавана.

**ПАННА.**

Часткова гэта разумовы знак, і стан розуму цесна зьвязаны з агульным станам здароўя. Найбольш успрымальны да хваробаў кішэчнік. Турботы, зьмена надвор´я могуць вывесьці арганізм з раўнавагі. Асабліва важна прытрымлівацца дыеты, і рэгулярныя звычкі не павінны парушацца, асабліва ў харчаваньні. Лекаў неабходна пазьбягаць і прыкладаць усе намаганьні дзеля таго, каб жыць у спакоі. Агульны стан спраў на працы таксама адбіваецца на здароўі, таму што людзі гэтага знака будуць пачувацца нездаровымі, калі іх матэрыяльныя справы ідуць дрэнна, аднак у той самы час, калі справы ладзяцца пасьпяхова, здароўе будзе добрым, і чалавек будзе мець асалоду ад «здаровага розуму ў здаровым целе».

**ШАЛІ.**

Гэта знак розуму й тонкай прыроды. У асноўным захворваньням падвяргаюцца ныркі. Вельмі важна гарманічнае акружэньне, шмат сьвежага паветра, лёгкія фізічныя практыкаваньні й практыкаваньні розуму. Каб добра сябе пачуваць, неабходна пазьбягаць усякіх лішкаў, як у задавальненьнях, так і ў ядзе. Прыгожай частцы чалавецтва неабходна адмовіцца ад карыстаньня касмэтыкай, улічваючы схільнасьць гэтага знака да алергічных захворваньняў. Для Шаляў вялікае значэньне мае пітная вада, бо яны могуць хварэць на брушны тыф, або запаленьне кішэчніка. Акрамя таго, павінны утрымоўваць у цяпле паясьніцу, каб не застудзіць яе. Захворваньні нырак могуць хутка аб сабе нагадаць, і на іх адразу неабходна зьвярнуць увагу.

**СКАРПІЁН.**

Гэта вітальны знак, кіруе выдзяляльнай сістэмай, уздзейнічае на сэрца й горла. Асноўная бяда гэтага знака — празьмерная распуста. Шмат якіх хваробаў можна пазьбегнуць, калі прытрымлівацца меры ў ядзе, піцьве і сэксуальных адносінах. Гэты знак вельмі ўспрымальны да інфэкцый, і калі набліжаецца эпідэмія, патрабуецца асаблівая асьцярожнасьць. Вострай і ўзбуджальнай стравы неабходна пазьбягаць. Мяса трэба ўжываць чым меней, а сьпіртных напояў не каштаваць увогуле. Захоўваньне жыцьцёвай сілы і вывучэньне законаў матэрыі найболей неабходны для добрага здароўя, у той час, калі рэгулярнае абліваньне сьцюдзёнай вадой — выдатны танізуючы сродак, які дапамагае падтрымліваць выдзяляльную сістэму ў добрым стане.

**Падрыхтаваў А. КАНДРАШОЎ.**

У мінулым нумары «Пагоні» у артыкуле «Антракт скончаны» памылкова была ўзгадана прозьвішча сп. Амелькі. Нам вельмі прыкра з гэтай прычыны, перапрашаем нашага калегу.



Пайшоў дахаты...
Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.


**ПАГОНЯ**

Рэдактар Сяргей АСТРАЎЦОЎ.

Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

Выходзіць штодватыдні па пятніцах.

Заснавальнік КАФ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Наша газэта ёсьць БЕЛАРУСКАЙ ТРЫБУНАЙ, адкрытай для выказваньня розных пунктаў гледжаньня, розных аўтараў зь любых краін, гарадоў і вёсак. Меркаваньні аўтараў публікацый не абавязкова могуць супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі.

Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня.
230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.
Тыраж 2450 паасобнікаў. Замова 1272
Нумар падпісаны да друку 25.I.1993.